


# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 13 (41), 5—11 траўня 1993 г. Цана 3 рублі


## У НУМАРЫ:



# 25 красавіка Расія зрабіла свой выбар. Зараз чарга за Беларуссю

## КАНФЕРЭНЦЫЯ ЗАПАТРАБАВАЛА ЗМЕН

25 красавіка ў абласным цэнтры прайшла канферэнцыя «Мясцовае самакіраванне як аснова сапраўднага народаўладдзя», арганізаваная (не без дапамогі тутэйшых уладаў) Віцебскай філіяй Беларускага рэспубліканскага фонда падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі. На ёй прысутнічалі дэпутаты мясцовых саветаў, кіраўнікі некаторых выканаўчых камітэтаў, навукоўцы і прадстаўнікі палітычных арганізацыяй Віцебшчыны й іншых рэгіёнаў Беларусі.

Удзельнікі канферэнцыі крытычна разгледзелі сучасны стан сістэмы мясцовых органаў улады на Беларусі і канцэпцыю іх рэформы. Прысутныя азнаёміліся з досведам рэфармавання мясцовага самакіравання ў Польшчы. Прадстаўнікі Фонда распавялі пра Еўрапейскую Хартыю мясцовага самакіравання.

М. КАЛІНОЎСКІ.

## РАШЭНЬНЕ

### СОЙМУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

**Беларускі Народны Фронт—грамадзка-палітычны рух, галоўнай задачай якога зьяўляецца ўсталяваньне дэмакратычнага ладу на Беларусі праз фармаваньне органаў улады.**

**Існуе небясьпека, што ў выніку «заканадаўчай дзейнасьці» намэнклятурнага Вярхоўнага Савету будзе ўведзена забарона на ўдзел у выбарчай кампаніі для рухаў, што фармальна пазбавіць БНФ магчымасьці актыўна ўдзельнічаць у выбарах.**

**Каб запабегчы гэтаму, Сойм разгледзеў магчымасьць фармальнага стварэньня ў рамках БНФ партыйнай структуры. Мяркуецца:**

**—што гэта будзе партыя парляманцкага тыпу;**

**—што праграмай новастворанай партыі будзе служыць Праграма БНФ, а статут павінен адпавядаць Статуту БНФ, адлюстроўваючы толькі тыя фармальныя прыкметы партыйнай структуры, якіх патрабуе дзейнае заканадаўства;**

**—што гэтая партыя распачне сваю дзейнасьць толькі з пачаткам выбарчай кампаніі і толькі пры ўмове, калі грамадзка-палітычным рухам ня будзе дазволена актыўна ўдзельнічаць у выбарах.**

**Сойм БНФ прапануе падчас III зьезду БНФ правесьці паседжаньне, якое мае на мэце ўтварэньне Партыі Беларускага Народнага Фронту. У сувязі з гэтым Сойм заклікае суполкі, рады і арганізацыі БНФ пры вылучэньні дэлегатаў на III зьезд адначасова надаць выбраным асобам паўнамоцтвы (асобным пратаколам) на прыняцьцё рашэньня аб утварэньні Партыі Беларускага Народнага Фронту.**

## ПРАФКАМ ВЫСТУПІЎ СУПРАЦЬ

Напрыканцы красавіка прафкам віцебскай СШ № 9 абмеркаваў дакумент, які паступіў у яго адрас з Чыгуначнага РАНА. У ім загадчык РАНА афіцыйна папярэдзіў прафсаюзны камітэт, што 4 мая будзе звольнена з працы загадчык вучэбнай часткі старэйшых класаў школы Л. Сухарукава. Вось так, нават не дачакаўшыся канца навучальнага года.

Абмеркаваўшы сітуацыю, якая склалася ў педкалектыве школы, члены прафкама аднагалосна падтрымалі Людмілу Уладзіміраўну і выступілі супраць яе звальнення. Але апошняе слова застаецца за кіраўніцтвам РАНА. Адначасова прафкам вырашыў «лічыць непрымальным аўтарытарны стыль кіравання, які ажыццяўляе дырэктар школы».

А. БУКАЧОЎ.

**Ад рэдакцыі.** Пра развіццё падзей у школе № 9 і выніках звязанага з гэтым журналісцкага расследавання, якое праводзіць наш карэспандэнт, чытайце ў наступных нумарах «Выбара».

## Ці пашлюць яны сваіх дзяцей?

Пяць народных выбраннікаў з Віцебска ў Вярхоўным Савеце рэспублікі прагаласавалі 9 красавіка за вайсковы саюз з Расеяй. Вось іхныя імёны: Яўген Бачароў, Мечыслаў Грыб, Вячаслаў Любавіцкі, Мікалай Сцепаненка і Мікалай Федарчук.

Нам невядома, ці думалі яны ў гэты момант пра сваіх выбаршчыкаў.

Можа быць, такая рашучая падтрымка гэтага саюза сведчыць аб наяўнасці ў іх жадання накіраваць першымі ў «гарачыя» кропкі СНД сваіх дзяцей? Для прыкладу. Трэба ж калі-небудзь парушыць традыцыю, што склалася з семнаццатага года, калі за ўсялякія сумніцельныя эксперыменты расплачваліся простыя працаўнікі ды іх дзеці?

Б. БАРЫСАЎ.

# НЕ БЕЗ СЮРПРЫЗА

На другі дзень праваслаўнага Вялікадня Беларускі тэатр «Лялька», тутэйшае аддзяленне Фонда культуры і ўпраўленне культуры зладзілі з нагоды 7-ых угодкаў заснавання віцебскае «Лялькі» вялікае дзіцячае свята. Ягоная арыгінальная праграма была разнастайнай і даволі насычанай.

Імпрэза распачалася ля сцен колясаўскага тэатра карнавалам, у якім удзельнічалі прафесійныя лялечнікі, юныя аматары лялечнага мастацтва і тэатра звяроў (на здымку злева).

Потым дзея перанеслася ў будынак БДТ-2. Тут гучалі музыка, спевы ў выкананні мастацкай самадзейнасці (на сярэднім фотаздымку выступ калектываў абласнога эстэтычнага цэнтра). Хлопчыкаў і дзяўчынак і, як бачым на трэцім здымку, дарослых зацікавілі выставы-конкурсы малюнка і цацкі. Затым госці свята змаглі прасачыць за спектаклем тэатра гульні гарадскога цэнтра культуры, пабачыць фальклорнае прадстаўленне лялечнага гуртка віцебскай СШ № 5, танцы дзіцячага ўзорнага ансамбля «Рамонкі» і, вядома ж, спектаклі самой «Лялькі»—«Прыгоды трох парасят» і «Папялушка». А маленькіх ласуноў чакаў сюрпрыз—бясплатнае марожанае.

М. ВАЛАЧОБНІК.







# «ПРЫХВАТЫЗАЦЫЯ» ПА-ВІЦЕБСКУ

*Працяг матэрыялаў па выніках сесіі чытайце ў наступным нумары.*

**У канцы красавіка адбылася сесія гарадскога Савета па пытанню прыватызацыі камунальнай маёмасці.**

**Пра тое, як разгортваліся падзеі за тоўстымі сценамі гарсавета, як успрынятыя рашэнні сесіі прадстаўнікамі дэмакратычнай грамадскасці, распавядаецца ў нашай падборцы, якую мы прапануўваем Вашай увазе.**

## З ДАВЕДКІ

### Інспекцыі Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласці

**«...Найбольш характэрнымі парушэннямі ў адносінах дзяржаўнай уласнасці з'яўляюцца, па-першае, парушэнне парадку ацэнкі прыватызуемай маёмасці, якая прыводзіць да заніжэння кошту аб'екта.**

**Так, толькі пры праверцы інспекцыяй законнасці продажу Віцебскім гарвыканкамам незавершанай будаўніцтвам прыбудовы па Маскоўскім праспекце таварыству з абмежаванай адказнасцю «Віцебскзнешбуд» і грамадска-гандлёвага цэнтра ў мікраёне «Поўдзень-3, 4» арэнднаму прадпрыемству «Другі гархарчгандаль» і фірме «Вітміл» устаноўлена заніжэнне ацэначнага кошту набываемых аб'ектаў, адпаведна, на 10340 тыс. рублёў і 31379 тыс. рублёў (матэрыялы па гэтых праверках перададзены ў Кантрольную палату Рэспублікі Беларусь)...»**

# Не далі слова

У апошнім нумары «Выбара» мы пісалі, што прадстаўнікі дэмакратычных партый і рухаў адправіліся на сесію, каб выказаць свой пункт погляду па пытанню прыватызацыі гарадской камунальнай маёмасці.

На жаль, вымушаны паведаміць нашым чытачам, што намаганнямі новага старшыні гарадскога Савета В. Неушава мы не атрымалі такой мажлівасці. І гэта нягледзячы на тое, што за некалькі дзён да паседжання падалі на імя Валерыя Мікалаевіча пісьмовую просьбу на выступленне двух чалавек. І гэта насуперак таму, што падчас сесіі мы зноўку паўтарылі сваю просьбу, накіраваўшы запіску ў прэзідыум, з якой азнаёміўся Неушаў.

Пагэтаму нам прыйшлося прысутнічаць на сесіі толькі ў якасці назіральнікаў. Што ж, часам бывае карысна. Погляд з боку.

Што мы ўбачылі? Асабіста я вынес з гэтага паседжання тры высновы.

**Вывад першы.** Большасць дэпутатаў гарадскога Савета не выражае думкі сваіх выбаршчыкаў. Адсутнасць жадання праводзіць паіменнае галасаванне сведчыць пра гэта. Падабраныя ў свой час адной партыяй яны засталіся на ўзроўні 1990 года, у той час як жыццё імкліва пайшло ўперад.

Трохзвенны ланцуг, што лучыць дэпутатаў і іхных выбаршчыкаў,—**наказ—рэалізацыя—справаздача**—практычна адсутнічае. Гэтым, пэўна, і можна растлумачыць тую абыякавасць, католая панавала ў зале пры рашэнні жыццёва важных праблем віцяблянаў.

Можна таксама з упэўненасцю сказаць, што свой першы крок у бок сур'ёзнай канфрантацыі з гараджанамі Савет зрабіў. Відавочна выразаюць варункі, пры якіх патрабаванні аб перавыбарах Савета і адстаўцы выканкама будуць узмацняцца.

**Вывад другі.** У мяне ўзніклі сур'ёзныя сумненні ў адносінах законнасці прынятых рашэнняў. Усё галасаванне было падобным, на мой погляд, на добра адрэпеціраваны спектакль. Два дэпутаты-лічыльнікі вялі падлік галасоў «супраць». Але ніхто не лічыў галасоў «за». Старшыня толькі паглядам ахопліваў залу і прасіў апусціць рукі. Пра «тых, што ўстрымаліся» ўвогуле аніхто й не прыгадваў, быццам іх не павінна было быць. Толькі чырвонае ды белае, ніякіх паўтаноў.

Хто можа ў такой сітуацыі адказаць, ці быў кворум у час прыняцця рашэння? Дзе гарантыя, што большасць дэпутатаў прыймала ўдзел у галасаванні, а не драмала ў сваіх крэслах? Стваралася такое ўражанне, што камусьці вельмі хацелася хутчэй прапусціць цераз машыну галасавання ўсе прыватызаваныя аб'екты, каб яны не былі, як бяльмо на воку ў горада. Каб не дай божа хто-небудзь з народных выбраннікаў не паспеў падумаць і крыкнуць: «Браткі, а мы ж за бясцэнак аддаем «сацыялістычнае» дабро».

**Вывад трэці і пакуль апошні.** Напэўна, самы галоўны. Калісь Марк Твен жартаўліва заўважыў, што чуткі пра ягоную смерць крыху перабольшаны. Сёння можна з поўным абгрунтаваннем заявіць, што пагалоска, якая хадзіла ў апошні час па месту і «расказвала» аб тым, што кансерватара Федарчука змяніў дэмакрат Неушаў, не пацвердзілася. Проста адзін былы партапаратчык замяніў другога з той толькі розніцай, што першы ў свой час даслужыўся да другога сакратара райкама партыі, а другі здолеў дайсці да пасады загадчыка сектарам агульнага аддзела абкама КПБ.

Наколькі мне вядома, такія паняцці, як дэмакратыя й абкам, несумяшчальныя. Але калі гіпатэтычна такі гібрыд мажлівы, то віцяблянам можа свяціць перспектыва пажыць пры «дэмакратыі» па-абкамаўску.

**Б. ХАМАЙДА.**

# Мільярд з кішэні віцяблян

Напярэдадні дня нараджэння Леніна ў Віцебск завітала гісторыя. Зайшла на некалькі гадзінаў у горад, дакладней—на сесію гарсавета: паглядзела-паслухала. Відавочна ўпэўнілася, што справа Леніна тут, як і ў 17-м годзе, жыве і перамагае, што сведчыць аб тым, што час спыніўся і тут ёй няма чаго рабіць, і знікла.

У 17-м пад лозунгамі «Зямля—сялянам», «Фабрыкі і заводы—рабочым», «Уся ўлада—Саветам» узброеная група авантурыстаў начале з дэмагогам Леніным захапіла ўладу, зямлю, фабрыкі, заводы, перастралялала палітычных апанентаў і нават саратнікаў і пачала так эксплуатаваць сялян, рабочых ды інтэлігенцыю, што ў капіталістычных «акул» ад зайздрасці слінкі пацяклі.

На сесіі гарсавета пад лозунгам «Маёмасць—народу!» узброеныя прававым нігілізмам нашчадкі Леніна зноў рабавалі, на гэты раз—нас, усіх віцяблян.

Супрацоўнікі выканкама на працягу года ў таямніцы і ад віцяблян, і ад дэпутатаў прадавалі будынкі. Гэтыя будынкі належаць нам, віцяблянам, і прадаць іх па закону маюць права толькі дэпутаты гарсавета. Пры гэтым не проста прадаць, а па закону зрабіць гэта галосна.

І вось Кантрольная палата раскрыла таямніцу Віцебскага выканкама. Мне здавалася, што ўсе віцебскія газеты, са старонак якіх чуецца стогн жабракоў-пенсіянераў, занядбаных інвалідаў і тых, хто заўтра збіраўся памерці, а сёння забараніў сабе гэта зрабіць, бо камуніст Кебіч (са таварышы) пераўтварыў іх пахавальныя ашчадныя кніжкі ў туалетную паперу... Карацей, я чакаў, што ўсе газеты падрабязна паведамяць віцяблянам, хто, як, чаму на працягу года выцягваў з кішэняў кожнага з нас прыватызаваныя грошы—прадаваў за бясцэнак маёмасць віцяблян.

Я чакаў, што вынікі сваёй працы прадставіць пракуратура.

Але з пракуратуры—цішыня... І гэта нягледзячы на рашэнне ВС аб праверцы ўсёй прыватызацыі. І вось у гэтых умовах напярэдадні сесіі гарсавета прадстаўнікі дэмакратычных плыняў (мясцовыя дэмакраты) звярнуліся да ўсіх дэпутатаў са зваротам пакараць вінаватых у незаконнай распрадажы, ануляваць продаж будынкаў, прадаць іх з аўкцыёна, а на атрыманыя грошы пабудаваць гараджанам кватэры.

Неспадзеючыся, што ўсе дэпутаты паспеюць прачытаць гэты зварот, Б. Хамайда аддаў В. Неушаву афіцыйную заяву аб выступленні на сесіі У. Плешчанкі, У. Падгола у падтрымку аўкцыённага продажу.

І вось падрыхтаваўшыся да выступлення, сядзім на сесіі, чакаем, слухаем. Цікава!

З дапамогай тэлебачання на сесіях ВС СССР мы былі, з'ездах СССР, Расіі—былі, на сесіі ВС РБ былі, а на сесіі гарсавета—упершыню! Сакрэтная арганізацыя! Ні мясцовага тэлебачання, ні радыё нябачна, а справа ж вырашаецца на мільярд. Мільярд з кішэні віцяблян! 22 крамы выканкам прадаў за 100 млн. руб., не маючы на гэта права, і зараз хацеў, каб дэпутаты зацвердзілі гэтае рашэнне. Калі ўлічыць, што ў Маладзечне з аўкцыёна адна крама была прададзена за 39 млн. руб., то ўвачавідкі, што выканкам (39×22=880) як мінімум 780 млн. руб. згубіў.

Але супрацоўнікі выканкама і іх абаронцы ад дэпутатаў так не лічылі і з трыбуны запэўнівалі ўсіх, што фірмы, якім прадалі будынкі—вельмі выгодныя гораду, што супрацоўнікі выканкама іх добра ведаюць, адна з іх дапамагае валейбольнай камандзе горада, другая абяцае дабудаваць жылы дом.

І, увогуле, з аўкцыёна прадаваць будынкі—нявыгадна! Так, так! Некалькі прамоўцаў запэўнівалі дэпутатаў, што прадаваць з аўкцыёна будынкі... нявыгадна! Ды якія там будынкі, адны сцены прадавалі—сцвярджалі гандляры.

Агаломшаныя, мы сядзелі і чакалі, калі Неушаў дасць нам слова. Неспадзеючыся на папярэднюю заяву аб выступленні, Хамайда паслаў Неушаву запіску з просьбай аб нашым выступленні, але той быццам бы не заўважаў нас.

У мяне ўсё мацней і мацней узнікала пачуццё, што мяне ўгаворваюць пагадзіцца з тым, што мой касцюм, кашуля, чаравікі і шкарпэткі, прададзеныя выканкамам за капейкі—вельмі выгодна для мяне здзелка і вось-вось дэпутаты зацвердзяць гэтае рашэнне і я павінен буду застацца ў адных трусах. І пры гэтым шчаслівы.

Як вядома, сёння ў цывілізаваным свеце самы дарагі тавар—гэта інфармацыя і зямля ў цэнтры гарадоў. Ды вось такое пытанне. Ці не здаецца вам, чыноўнікі выканкама, што вы спачатку прадалі інфармацыю сваім людзям аб прыватызуемых аб'ектах, а потым прадалі зямлю пад выглядам ці разваленых, ці недабудаваных сцен?

Які можа быць працяг гэтых гандлёвых спраў?

Уласнікі прададзеных аб'ектаў могуць, дабудаваўшы і адрамантаваўшы гэтыя аб'екты, прадаць іх за валюту і яны ўжо не прагадаюць! Прайграюць у гэтым усе віцябляне. Сёння ўсім вядома, што прадаць у Польшчы рэч выгадней, чым у нас дома. Прадаць нашы будынкі замежным гандлярам у тысячы разоў выгадней, чым сваім. У свой час, калі з'явяцца адпаведныя законы, тое, што сёння за бясцэнак спусцілі чыноўнікі выканкама—будзе прададзена за вялікія грошы.

Як праходзіла галасаванне, апісана ў Хамайды. Я ж хачу паразважаць вось аб чым. Калі прыватызацыя пойдзе так далей, то інтэлігенцыі і пенсіянерам застанецца прыватызаваць тэлеграфныя слупы, і тыя, відавочна, не дадуць уласнікі-электрыкі. Калі я памыляюся, то адкажыце мне, выканкамаўскія гандляры і зацвердзіўшыя здзелку века дэпутаты: чаму былыя супрацоўнікі крамаў (гандляркі, рабочыя, якія на пенсіі, якія гарбаціліся на пабудову гэтых крам) з-за вас пазбаўленыя права стаць «уласнікамі» гэтых магазінаў?

Наступнае пытанне тычыцца прададзеных сцен, «якія развальваюцца». Зараз, каб пабудаваць сабе дом, людзі стаяць на чарзе і невядома, калі атрымаюць зямлю. Ці не лічыце вы, што прадалі не сцены, а зямлю ў лепшых месцах горада?

Неушаў павёў сесію адразу ў загадзя падрыхтаваным накірунку: зацвердзіць рашэнне выканкама аб продажы аб'ектаў... Але ж яно было незаконным, бо ўласнікам з'яўляецца Савет (дэпутаты), а не выканкам (чыноўнікі). Сесія павінна была прааналізаваць спачатку прычыны незаконных дзеянняў чыноўнікаў. Потым ануляваць незаконныя здзелкі выканкама, а затым ужо прыняць рашэнне аб продажы аб'ектаў згодна з законам аб прыватызацыі. Але здарылася неверагоднае—дэпутаты пачалі абмяркоўваць, як зацвердзіць незаконнае рашэнне і незаконным шляхам—галасавання не было (не вёўся падлік галасоў) Неушаў заявіў, што рашэнне прынятае.

Як быць далей? Як адносіцца да таго, што здарылася?

**У. ПАДГОЛ.**

## Які ў нас грамадскі лад?

Днямі неяк, на сесіі Нямойтаўскага сельскага Савета народных дэпутатаў, давялося чуць, як адзін з народных выбраннікаў, А. Шылько, задаваў з трыбуны рытарычнае пытанне: «Пры якім ладзе мы зараз жывём?» І, як рэфрэн, паўтараў ён гэтыя словы на працягу ўсяго свайго выступлення, даводзячы, што цяпер, калі намі правяць дэмакраты, усюды пануе неразбярыха.

Крывілі Вы ўсё-такі душой, Аляксей Сцяпанавіч. Няўжо былы старшыня калгаса, былы старшыня гэтага ж сельскага Савета, а цяпер пенсіянер, не разумее, які ў нас зараз грамадскі лад?

Ды той жа самы, які і быў раней. Хіба ж пазбавіліся мы той самай таталітарнанаменклатурнай сістэмы? Паглядзіце на дзейнасць нашага Вярхоўнага Савета, на рашэнні, якія ён прымае пераважнай большасцю галасоў.

З перапуду пасля жнівеньскіх падзей 1991-га года забаранілі было дзейнасць КПБ, а потым апомніліся: «Мы ж, маўляў, большасць», і нанова аднавілі яе. Які там яшчэ дэмакратычны рэферэндум? Забараніць! І забаранілі, ігнаруючы волю ледзьве не паўмільёна беларусаў. Без эканамічнага і ваеннага саюза з Расіяй нам, маўляў, не выжыць. І дружна галасуюць за гэты саюз...

Дык хто ж кіруе намі— дэмакраты ці былая партыйная наменклатура, паважаны Аляксей Сцяпанавіч? Хіба ж Вы не ведаеце, што ў Вярхоўным Савеце большасць складаюць былыя партыйныя чыны?

Можа і была б у нас дэмакратыя ў сапраўдным сэнсе гэтага слова, калі б тады ж, пасля жніўня 1991-га, перавыбралі мы нашых прадстаўнікоў у Вярхоўным Савеце. Але што гаварыць? Свае ж рашэнні мяняе гэты орган улады, як хоча. Аднавілі КПБ, задушылі нейтралітэт Беларусі... Глядзіш, так да герба і сцяга дойдуць. Гімна ж новага няма, Канстытуцыі—таксама....

Дык які ў нас грамадскі лад, таварыш народны дэпутат сельскага Савета?

**І. ЛАЗУКА,**
**г. Сянно.**

# Уваскрэшанне св. Варвары



*Вакол культурна-рэлігійнага жыцця*



Касцёл св. Варвары—адзін з чатырох віцебскіх храмаў, якія насуперак разбуральнай стыхіі савецкіх часоў так-сяк дажылі да нашага часу. Што яго выратавала ад канчатковага знішчэння? Не, не літасць бязбожнае ўлады і канешне ж не асаблівая прыгажосць. Прыгажосць не ратавала, хутчэй яна была найпершым знакам асуджанасці.

Як і Казанская царква ў зруйнаваным Маркавым манастыры, ці маленькая Успенская ў цяперашнім батанічным садзе, св. Варвара «дажыла» да нашых дзён дзякуючы аддаленасці ад цэнтра. Білі найперш па святая-святых горада—гістарычнаму цэнтру, дзе не здолела ўратавацца нават 800-гадовая Дабравешчанка.

Абрабаваны касцёл павінен быў дабіць час, непрыкметна і канчаткова. Але Варвара выстаяла і дачакалася новага жыцця.

Сёння намаганнямі брыгады тынкоўшчыкаў, якую ўзначальвае вядомы ўжо чытачам «Выбара» па публікацыі «Майстар» Васіль Клімянкоў, блізіцца да завяршэння рэстаўрацыя велічнага варварынскага інтэр'ера. Самая смелая фантазія таго, каму даводзілася бачыць інтэр'ер касцёла да пачатку яго аднаўлення, ці здольна была даць рады абрынутым скляпенням і здзічэлым мурам закінутай святыні? Заставалася адно—махнуць у роспачы рукою ды ісці прэч.

Васіля Рыгоравіча Клімянкова і яго паплечнікаў (а гэта Вера Раманаўна Капойка з сынам Васілём Міхайлавічам ды Уладзімір Аляксандравіч Талкачоў) тая «безнадзейная» веліч не спужала. Жыццёвая мудрасць даводзіла адно—закасваць рукавы і ісці на рыштаванні. Так і ішлі яны ўчацвярох кожны дзень у бітву (як любілі казаць у недалёкім мінулым) за... прыгажосць, абапіраючыся адно на веру ў свае сілы, у сваё майстэрства.

Прайшло не так многа тыдняў і месяцаў (ці не паўгода толькі) тонкае карпатлівае працы, крытэрыем якое была стаўшая ўжо дэвізам Васіля Клімянкова дасканаласць, і немагчымае ўвасобілася ў велічную гармонію архітэктуры і чалавечае веры ў тое, што ўсё ўзнёслае і дасканалае ва ўсе часы жывілася чалавечым сэрцам і залатымі чалавечымі рукамі. Жыві, Варвара!

P.S. Справа рэстаўрацыі касцёла ідзе да звяршэння. Але разам з задавальненнем ад зробленага кінулася мне ў вочы і засмучэнне майстроў—што рабіць далей, каму прапанаваць свае рукі?

Хацелася б звярнуцца да ўсіх, хто выношвае самыя смелыя праекты. Калі вы жадаеце ўвасобіць сваю фантазію ў самую дасканалую працу —ідзіце да Васіля Клімянкова і яго брыгады, там вы знойдзеце поўную гарантыю якасці.

**Алесь МЕМУС.**
(Фота аўтара).

**Фрагмент адрэстаўрыраванага інтэр'ера касцёла св. Варвары; брыгада майстроў (злева направа): У. А. Талкачоў, В. Р. Капойка, В. Р. Клімянкоў, В. М. Капойка.**

## «ВІЦЕБСК ПАМЯТАЕ МІРО»

*Менавіта так называлася чарговая акцыя віцебскай прыватнай галерэі «У Пушкіна». Хто такі Хоан Міро? Імя гэтага каталонскага творцы стаіць у шэрагу вядомых усяму свету мастакоў Сальвадора Далі, Пабла Пікасо, Марка Шагала. Але, на жаль, творчасць Міро яшчэ да нядаўніх часоў лічылася ў нас забароненай.*

*Сёлетні ж год знамянальны. Мастакоўскі свет адзначае стагоддзе з дня нараджэння вялікага каталонца. Міма такой падзеі, зразумела, не магла прайсці гарадская галерэя сучаснага мастацтва. Яна сабрала прыхільнікаў творчасці іспанскага майстра на нефармальнае свята, што прайшло 22 красавіка.*

*Як адзначылі супрацоўнікі галерэі, гэтая імпрэза—толькі пачатак іхняй працы па прапагандзе, прэзентацыі сучаснага авангарднага мастацтва. Што ж, будзем чакаць новых мастацкіх акцый галерэі.*

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**




**Перад пачаткам свята. Здымак на памяць. Фота І. Сушчэўскага.**

## Беларускі друк—да вашых паслуг!

Сёння мы завяршаем міні-каталог беларускамоўнай прэсы. Спадзяёмся, што вы, шаноўныя чытачы, зрабілі свой выбар у моры сучасных выданняў.

**ГАЗЕТА (падпіска на паўгода)**

| | | |
|---|---|---|
| 63856 | «Літаратура і мастацтва» | 240-00 |

**ЧАСОПІСЫ (падпіска на паўгода)**

| | | |
|---|---|---|
| 74803 | «Адукацыя і выхаванне» | 240-00 |
| 74845 | «Вясёлка» | 90-00 |
| 74980 | «Пачатковая школа» | 300-00 |
| 74995 | «Работніца і сялянка» | 270-00 |
| 75021 | «Беларуская мінуўшчына» | 50-00 |

## І «Карсіканка», і «Цыганка...»

У Віцебску распачаліся тыднёвыя (з 3 па 10 мая) гастролі рускамоўнага Гародзенскага драматычнага тэатра. Пятага й восьмага траўня публіка зможа ўбачыць спектакль «Цыганка мне расказала». 6 і 10 гарадзенцы адпаляць свае «Французскія штучкі». На свята Перамогі гледача чакае рандэву з «Карсіканкай».

Юным жа аматарам тэатра прапануюцца казкі «Васіліса і лялька Каця», ды «Сон Кузьмы».

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**


Фота А. МЕМУСА.

«Я з мастацка-графічнага...»

## У кінатэатрах горада з 5 па 9 мая

**«Беларусь»**
**«Маленькі гігант вялікага сексу»** (Расія). 9.40, 11.30, 13.20, 15.10, 17.00, 18.50, 20.40.
**«Вяселле веку»** (Францыя, малая зала). 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00. Аўтаадказчык 14028.

**«Спартак»**
**«Сценка на сценку»** (ЗША). 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 17.50, 19.40, 21.30. Аўтаадказчык 365121.

**«Кастрычнік»**
**«Татальнае сачэнне»** (Францыя). 9.30, 11.20, 13.10, 15.00, 16.50, 18.40, 20.30. Аўтаадказчык 365544.

**«Брыганціна»**
**«Вайна ніндзя»** (ЗША). 9.00, 14.20, 16.00, 17.40, 19.20, 21.00.
**«Імперыя страсці»** (Францыя—Японія). 15.20, 17.10, 19.00, 20.50.
**Мультфільмы** 10.30, 11.45.
**«Як праводзілі канікулы Болек і Лёлек»** (Польшча). 9.10, 10.15, 11.30, 12.45, 14.00.
**«Вяртанне скрыпкі».** 13.00. Аўтаадказчык 18179.

**«Мір»**
**«Красуня»** (ЗША). 10.00, 12.15, 13.25, 15.35, 17.45, 19.50.
**«Люмі».** 9.50, 11.35, 14.30, 16.20, 18.35, 20.10. Аўтаадказчык 362223.

**«Усход»**
**«Фінальны альянс»** (ЗША). 14.00, 15.40, 17.20, 19.00, 20.35. Аўтаадказчык 332936

**Відэатэатр «Віцьба»**
Аўтаадказчык 149945.

## ВЯСЁЛЫ ГЛОБУС

*—Петэр адным рухам нагі зваліў бярозу!*

*—Няўжо адным рухам нагі?*

*—Так, націскам на педаль газа.*

* * *

*—Дарагая, ты хацела б ісці са мною па жыцці?*

*—А чаму ісці? Хіба ў цябе няма аўтамабіля?*

## Усім зацікаўленым

Усіх палітычна актыўных жыхароў Чашніцкага раёна, якія жадаюць Адраджэння Бацькаўшчыны, запрашаем гуртавацца вакол Новалукомльскай суполкі Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі. Звязацца з ёю можна па адрасу: **211162, г. Новалукомль, вул. Энергетыкаў, д. 18, кв. 9, Пятрусь Баравік** і па тэлефоне **3-79-52.**

## Віцебскія палітычныя дыялогі

—З якой мэтай большасць Вярхоўнага Савета Беларусі плануе падтрымаць ідэю Апазіцыі аб утварэнні новай арміі?

—Каб абараніць ад справядлівых нападак старую армію.

* * *

—Вядома, што ў краінах СНД шмат калектыўных гаспадарак з назвай «ПІК КАМУНІЗМУ». Як перайменаваць іх з найменшымі затратамі?

—Лепш і танней за ўсё ў першым слове назвы замест літары «І» напісаць літары «ШЫ».

## Конкурс палітдыялогаў

Мы прапануоваем вам, шаноўныя чытачы, адказаць у духу нашых «Палітычных дыялогаў» на наступнае пытанне:

—Што пазітыўнага можа даць Беларусі ваенны саюз з Расеяй, Казахстанам ды некаторымі іншымі дзяржавамі?

Той, хто прышле да 1 чэрвеня самы(я) цікавы(я) адказ(ы), атрымае ад рэдакцыйнай рады прыз.

Апроч таго, запрашаем вас дасылаць нам свае пытанні, якія, мажліва, уключым у наступны конкурс палітдыялогаў.

## У гонар памяці

Выканкам Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады шчыра дзякуе грамадзянам, прадпрыемствам і арганізацыям, якія ўнеслі сродкі на будаўніцтва помніка вядомаму беларускаму гісторыку, вучонаму і грамадскаму дзеячу Міхасю Ткачову:
—Каралёва Д. С. (г. Мсціслаў)—10 000 руб.
—Прыхільнік БСДГ (пажадаў застацца невядомым)—20 000 руб.
—Міраслаў Целушэўскі (г. Беласток)—46 000 руб.
—Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі—100 000 руб.
—Рэчыцкі доследна-прамысловы гідролізны завод—150 000 руб.
—Праўленне Белкаапсаюза—100 000 руб.
—Цітовы (в. Шыркі Мсціслаўскага раёна)—5 000 руб.
—Казлоўскія (г. Мсціслаў)—2 000 руб.

Для тых, хто жадае дапамагчы ў пабудове помніка, нагадваем, што сродкі трэба пералічваць на адрас: 220600, г. Менск, вул. А. Кашавога, 9, Заводскае аддзяленне Белпрамбудбанка, рахунак 700810, код 338, Цэнтральная Рада БСДГ, на помнік М. Ткачову. Даведкі па тэл.: 46-46-91.

**ВЫ ЖАДАЕЦЕ** штосьці прадаць, абмяняць, купіць, кагосьці павіншаваць—адным словам—**ЗРАБІЦЬ БЯСПЛАТНУЮ АБ'ЯВУ!**
**Звяртайцеся да нас лістоўна ці па тэлефоне 37-28-44.**

## *Мастацкія фільмы на рэшту тэлетыдня*

**СЕРАДА,**
**5 траўня**
**Беларускае тэлебачанне**
9.30 і 21.35. «Мачаха».
13.40. «Атрад спецыяльнага прызначэння». 3-я і 4-я серыі.
**Канал «Астанкіна»**
10.30. «Гарачаў і іншыя». 13-я серыя.
11.20. «Вялікі перапынак». 1-я і 2-я серыі.
18.25. «Цішыня». 4-я серыя.
21.35. «Шлях гераіну». 5-я серыя.
**Канал «Расія»**
11.00. «І жыццё, і слёзы, і любоў».
19.25. «Санта-Барбара».
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
8.05. «Мая другая мама».
23.00. «Шчаслівчык».

**ЧАЦВЕР,**
**6 траўня**
**Беларускае тэлебачанне**
9.45 і 21.35. «Мачаха».
13.40. «Атрад спецыяльнага прызначэння». 5-я серыя.
**Канал «Астанкіна»**
11.20. «Вялікі перапынак». 3-я і 4-я серыі.
18.30. «Цішыня». 5-я серыя.
21.10. «Шлях гераіну». 6-я серыя.
**Канал «Расія»**
11.00 і 19.25 «Санта-Барбара».
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
**8.05**. «Шчаслівчык».
20.55. «Мая другая мама».

**ПЯТНІЦА,**
**7 траўня**
**Беларускае тэлебачанне**
9.15. «Мачаха».
13.40. «Быў месяц май».
21.40. «Беларускі вакзал».
**Канал «Астанкіна»**
8.20 і 15.10. «Шалёная».
18.45. «Цішыня». 6-я серыя.
**Канал «Расія»**
10.55. «Санта-Барбара».
16.55. «Сасланы на планету Зямля». 9-я серыя.
19.25. «Расстанемся, пакуль добрыя». 1-я і 2-я серыі.
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
8.10. «Мая другая мама».
12.00. «Царскае паляванне».
23.00. «Экспрэс жахаў».

**СУБОТА,**
**8 траўня**
**Беларускае тэлебачанне**
8.20. «Беларускі вакзал».
21.35. «Снягі Кіліманджара» (ЗША).
**Канал «Астанкіна»**
11.15. «Сталінградская бітва». 1-я серыя.
18.45. «Негатыўнае адлюстраванне» (ЗША).
20.40. «Апошнія дні Пампеі» (ЗША). 1-я серыя.
**Канал «Расія»**
11.05. «Жывыя і мёртвыя». 1-я серыя.
19.25. «Ваенна-палявы раман».
23.30. «Хроніка пікіруючага бамбардзіроўшчыка».
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
8.05. «Экспрэс жахаў».
11.10. «Я—Бяроза».
16.15. «Быў месяц май».
20.45. «Мая другая мама».
23.10. «На ўсё астатняе жыццё». 1-я і 2-я серыі.

**НЯДЗЕЛЯ,**
**9 траўня**
**Беларускае тэлебачанне**
8.55. «Мачаха».
21.50. «Аперацыя «Вундэрланд».
**Канал «Астанкіна»**
10.45. «Сталінградская бітва». 2-я серыя.
19.15. «Танк «Клім Варашылаў-2».
**Канал «Расія»**
11.05. «Жывыя і мёртвыя». 2-я серыя.
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
9.00. «Нябесны ціхаход».
16.05. «Сто салдат і дзве дзяўчыны».
23.10. «На ўсё астатняе жыццё». 3-я і 4-я серыі.

Выбар

Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

**Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Валянцін АРЛОЎ
Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ
Васіль ІГНАЦЕНКА
Юры ЛАЎРЭНАЎ
Ларыса МІХНЕВІЧ
Міхась ПАЎЛАЎ
Уладзімір ПЛЕШЧАНКА
Леанід ТАМАРОВІЧ
Ігар ЦІШКІН

Мастак **Р. Клікушын.**
Фотаздымкі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
**Тэл.** 37-35-06, 37-28-44.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

**Пры передруку спасылка на «Выбар» абавязковая.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

**Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.**

**Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.**

Выходзіць штотыднёва па сярэдах

Нумар падпісаны да друку 4.05.1993 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Цана 3 руб.**